


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

18 кастрычніка 2002 года
№ 42 (391)
Выходзіць па пятніцах




## Навіны рэгіёна

### У родныя мясціны

МЯДЗЕЛ. У раёне гасцявалі ўраджэнцы Кабыльніка брат і сястра **Аляксандр** і **Ганна Свірскія** з Амерыкі.
Былі з імі і дзеці Ганны. Пабывалі яны на брацкіх магілах расстраляных у вайну яўрэяў, наведалі людзей, якія дапамагалі яўрэям выратавацца. У Кабыльніцкай школе сустрэліся з вучнямі, якія даглядаюць мясцовыя яўрэйскія пахаванні.
У вайну малыя Ганна і Аляксандр цудам уратаваліся ад расстрэлу.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Пахаладала – гарым

ВІЛЕЙКА. Статыстыка, адпаведна якой з надыходам халадоў колькасць пажараў павялічваецца, пацвярджаецца.
Увечары 14 кастрычніка, калі пайшоў першы моцны снег, загарэўся жылы дом № 115 па вуліцы Стаханаўскай. Прычына – няспраўнасць коміна. 15 кастрычніка гарэў дом у вёсцы Шыпкі Хаценчыцкага сельскага Савета. Тут гаспадары без нагляду пакінулі абагравальныя прыборы.

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

### Адкрыўся Палац культуры

МАЛАДЗЕЧНА. Учора на ўрачыстае адкрыццё Палаца культуры прыехаў Аляксандр Лукашэнка.
Візіт адбыўся ў рамках семінару кіруючых работнікаў рэспубліканскіх і мясцовых дзяржаўных органаў, што прайшоў на базе Мінскай вобласці.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Фальшывыя еўра

МАЛАДЗЕЧНА. На мінулым тыдні выявілі фальшывую купюру ў 100 еўра ў маладзечанскім аддзяленні "Белінвестбанка". Па факце падробкі надыходзіца праверка.

**Ірына РАБУШКА.**

### Пакутуюць дзеці

ВАЛОЖЫН. На мінулым тыдні ў райцэнтр прыязджаў загадчык дзіцячага неўралагічнага аддзялення Мінскай абласной дзіцячай бальніцы, галоўны пазаштатны неўрапатолаг Міншчыны Віктар Белабосаў. На прыём да яго прывялі 20 дзяцей. Шмат было хлопчыкаў і дзяўчынак да 1 года. Кожнаму назначана індывідуальнае лячэнне. Праз некаторы час урач зноў прыедзе ў раён. Калі – дакладна не вызначылі.
52 дзіцяці ў раёне пакутуюць ад неўралагічных захворванняў.

**Наталля ШТЭЙНЕР, Ірына РАБУШКА.**

### Снарад на могілках

СМАРГОНЬ. У аўторак мужчына, які капаў магілу на гарадскіх могілках, наткнуўся на артылерыйскі снарад. Мяркуецца, што боепрыпас захаваўся з часоў Вялікай Айчыннай вайны. Небяспечнае месца ахоўваецца міліцыянерамі.

**Ірына РАБУШКА.**

### Знайшлі мільён цыгарэт

АСТРАВЕЦ. У лазні на тэрыторыі Кямелішскага сельсавета знайшлі 50 тысяч пачак цыгарэт. Усе імпартнай вытворчасці і без акцызных марак. Гаспадара адшукаць не ўдалося, і цыгарэты пайшлі ў даход дзяржавы. Знаходка ацэненая ў 30 мільёнаў рублёў.
Правялі аперацыю астравецкія пагранічнікі сумесна з супрацоўнікамі Упраўлення Дэпартамента фінансавых расследаванняў КДБ Беларусі па Гродзенскай вобласці.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### Надвор'е на выхадныя

Субота, 19 кастрычніка

**Мінск**
3°С (уначы)
8°С (удзень)



**Вільня**
4°С (уначы)
6°С (удзень)



Нядзеля, 20 кастрычніка

**Мінск**
0°С (уначы)
2°С (удзень)



**Вільня**
-1°С (уначы)
4°С (удзень)



# На рынку ставяць свечкі

**МАЛАДЗЕЧНА. У панядзелак, аўторак і раніцай у сераду на рынку райспажыўтаварыства не было святла. Адключылі электрычнасць у рыбным, сальным, мясным і кілбасных павільёнах. Гандлявалі пры свечках.**



Фота Ірыны РАБУШКІ.

**Раніцай 16 кастрычніка ў мясным павільёне на рынку райспажыўтаварыства не было святла. Гандлявалі пры свечках.**

Электрычнасць адключылі па ініцыятыве Маладзечанскага электранагляду за грубыя парушэнні ва ўстаноўцы і эксплуатацыі электраабсталявання ў павільёнах. А таксама за ігнараванне адміністрацыяй райспажыўтаварыства на працягу года прадпісанняў аб ухіленні хібаў. Днём у сераду пасля нарады ў першага намесніка старшыні райвыканкома **Міхаіла Прыбалаўца** і пад асабістую адказнасць галоўнага энергетыка райспажыўтаварыства **Мікалая Унукоўскага** электрычнасць далі. Але толькі да 21 кастрычніка.

Гісторыя пачалася 26 снежня мінулага года. На рынак прыйшоў інспектар энерганагляду **Пётр Цар** і выявіў, што электраабсталяванне ў павільёнах ставілі без неабходнай праектнай дакументацыі. Таму і парушэнні былі амаль паўсюль. Самыя вялікія - у кілбасным павільёне. Там не было ўстройства ахоўнага адключэння і контуру з заязмленнем. Верагоднасць таго, што ток мог пайсці праз жалезную "начынку" павільёна і забіць таго, хто дакранецца да любой жалезкі, была крытычнай. Тое, што не было ахвяр – шчаслівая выпадковасць. У астатніх павільёнах неабходныя прыборы былі, але не адрэгуляваныя, таму і там існавала небяспека.

Электрычнасць адключылі пасля некалькіх папярэджанняў. Былы галоўны энергетык райспажыўтаварыства звольніўся ў пачатку кастрычніка. З прыходам на гэтую пасаду новага чалавека на рынку пайшлі работы. Будуць яны працягвацца і на гэтых выхадных. Хутчэй за ўсё, справіцца з усімі хібамі да 21 кастрычніка не хопіць часу – трэба многа зрабіць. На закупку самага неабходнага электраабсталявання трэба тэрмінова каля 500 тысяч рублёў.

Святло на рынку могуць адключыць яшчэ раз.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ МОЛАДЗЬ

# Арганізацыя новая – кіраўнікі ранейшыя

**МАЛАДЗЕЧНА. Аляксандр Бобрык узначаліў гарадскую арганізацыю грамадскага аб'яднання "Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі" (БРСМ). Такое рашэнне прынялі дэлегаты аб'яднальнай канферэнцыі, што прайшла 14 кастрычніка.**

У верасні ў Мінску аб'ядналіся "Беларускі патрыятычны саюз моладзі" і "Беларускі саюз моладзі". Згодна са статутам БРСМ, ва ўсіх гарадах і раёнах павінны прайсці аб'яднальныя канферэнцыі, на якіх выбіраюць кіраўнікоў мясцовых аддзяленняў БРСМ.

41 дэлегат з'явіўся на маладзечанскую канферэнцыю. Аднагалосна выбралі 15 чалавек – членаў гарадскога камітэта БРСМ. Яны зноў жа аднагалосна сваім кіраўніком выбралі першага сакратара гарадской арганізацыі БПСМ Аляксандра Бобрыка, а другім сакратаром – першага сакратара гарадской арганізацыі БСМ **Дзмітрыя Кандрацюка**.

Была і трэцяя кандыдатура – гарвыканкам прапанаваў студэнтку Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта **Алесю Саковіч**. Яе нават не ставілі на галасаванне, бо Алеся да гэтага не знаходзілася ў складзе ніводнай з дзвюх арганізацый, што было неабходна па статуце БРСМ.

**ВІЛЕЙКА.** Першым сакратаром Вілейскага гарадскога камітэта БРСМ абралі **Алену Капцюг**, другім сакратаром – **Наталлю Кавалёву**.

Стварэнне арганізацыі БРСМ у Вілейцы практычна мае характар перайменавання БПСМ, таму што арганізацыя БСМ незарэгістраваная. Тым не менш, канферэнцыя выклікала шмат увагі з боку органаў улады – у прэзідыуме сярод іншых занялі месцы старшыня раённага выканаўчага камітэта **Яўген Сініла**, загадчыца аддзела па справах моладзі **Тацціяна Цітуленка**.

Напрыканцы здарылася адна недарэчнасць – новаабраная ў камітэт навучэнка ПТВ-48 **Кацярына Барташэвіч** выказалася, што яна супраць свайго абрання і не мае жадання ўваходзіць у склад камітэта.

**Юрый КАРПІЦКІ,**
**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

**Працяг тэмы – на 2-й стар.**



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Кіраўнікі маладзечанскіх арганізацый БПСМ і БСМ будуць працаваць разам у адной арганізацыі. Кіраўнік БПСМ Аляксандр Бобрык (злева) узначаліў маладзечанскі гарадскі камітэт БРСМ, а кіраўнік БСМ Дзмітрый Кандрацюк стаў намеснікам Бобрыка.**

■ ПАРТРЭТ

# Калі акцёр становіцца рэжысёрам

**МАЛАДЗЕЧНА. "Я памёр як акцёр і нарадзіўся як рэжысёр", — гаворыць Уладзімір Уладыка — рэжысёр-пастаноўшчык Мінскага абласнога тэатра лялек "Батлейка".**

Напэўна, гэтая думка прыйшла яму на "бязлюдным" востраве, што на возеры Мядзел, дзе любіць бываць Уладзімір. Кажа, узбярэшся на Замкавую гару і адчуваеш сувязь з продкамі, разважаеш, дзеля чаго ты жывеш.


Фота Ірыны РАБУШКІ.

Рэжысёр Мінскага абласнога тэатра лялек "Батлейка" Уладзімір Уладыка.

**Нарадзіўся Уладзімір Уладыка 25 кастрычніка 1969 года ў Маладзечне. Да 6 гадоў выхоўваўся ў бабулі і дзядулі ў вёсцы Красны Беражок на Вілейшчыне. Адзін год вучыўся ў СШ №3 г.Вілейкі. Пасля заканчэння Маладзечанскай СШ №6 у 1984 годзе паступіў у Маладзечанскае музычнае вучылішча па класу трамбона. У 1988-90 гадах служыў у арміі. 4 месяцы працаваў у Вілейскім Доме культуры і музычнай школе. З 4 снежня 1990 года — у Мінскім абласным тэатры лялек "Батлейка" ў Маладзечне.**

### Калі я быў акцёрам...

А быў ім Вова 12 гадоў. Сыграў каля 30 роляў. Выключна імі і займаўся. Праз 7 гадоў работы ў "Батлейцы" зразумеў, што справу акцёра адолеў. А тварыць толькі тады можаш, тады цікава, калі вывучаеш і пазнаеш сваю працу. Акцёр перастаў "прымаць" лёс персанажа на сябе, ужывацца ў ролю. Механічна рухаў лялькай, усміхаўся, крывіў мордачкай, загадзя ведаў, як адрэагуе на гэта глядач. Не, ён працаваў дакладна і правільна. Але, як кажа акцёр, рабіў ролі левай нагой.

Ведаў і тое, што ён вядучы артыст тэатра. І ўсе акцёры павінныя раўняцца на яго талент. Гэткі "апошні герой"!

### Калі я стаў рэжысёрам...

Акцёры тэатра казалі: "Каб ведалі раней, што Вова будзе рэжысёрам, падня́лі б бунт". Але іх паставілі перад фактам, і нічога не заставалася рабіць.

Цяпер у яго стала менш часу на самога сябе. Да "звання" рэжысёра яшчэ не прывык. У яго змяніўся нават характар. А яшчэ ходзіць у плашчы і з партфелем. Напэўна, там ляжаць кнігі па гісторыю і традыцыі беларускай культуры. Апошнім часам іх столькі прачытаў, колькі за 10 гадоў глядзеў-не пераглядзеў.

Першай рэжысёрскай спробай была казка "Новы Калабок". Другой...

### «Яна і я»

З Міністэрства культуры ў "Батлейку" прыйшла разнарадка на падрыхтоўку пастаноўкі, прысвечанай 120-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы. Інакш кажучы, "абязалаўку" прыслалі. Стаўленне да гэтага было адмоўнае.

Але, напэўна, памяць аб роднай Вілейшчыне дапамагла Уладзіміру Уладыку не разгубіцца. Усю яе прыгажосць і адметнасць, любоў да яе ўклаў у розум і думкі хлопца яго дзед.

Захацелася зрабіць таксама нешта асаблівае, адкрыць Купалу па-новаму. Але як звязаць песняра і лялечны тэатр?.. Вырашылі працаваць над інсцэніроўкай Пятра Васючэнкі паводле паэмы Янкі Купалы "Яна і я". Перш чым узяцца за рэжысуру, Уладзімір Уладыка перачытаў паэму не адзін раз. Спектакль не паддаецца дакладнаму класічнаму жанру. Гэта спалучэнне драматычнага і лялечнага тэатраў. "Яна і я" (так пакуль называецца спектакль) — гэта імгненні любові да жыцця. Гэта, як вясна, калі хочацца любіць усё. У ім ствараецца ілюзія ідэальнага свету, якога няма, але ў якім хочацца жыць.

**Ірына РАБУШКА.**

■ КНІГАРНЯ

## Зборнік паэтаў Вілейшчыны

Намаганнямі супрацоўнікаў Вілейскага гісторыка-краязнаўчага музея выйшаў літаратурна-мастацкі зборнік "Родная бацькоўская зямля". У ім надрукаваны вершы трынаццаці тутэйшых паэтаў. У канцы месяца будзе праведзена прэзентацыя зборніка.




Зборнік ілюстраваны графікай мастака Уладзіміра Лукшы, а ўкладальнік — старшы навуковы супрацоўнік Вілейскага гісторыка-краязнаўчага музея Вольга Коласава. Яна хацела праз вершы і малюнкі пазнаёміць чытачоў з гістарычнымі мясцінамі, назваць і успомніць мясцовых паэтаў.

Сродкі на выданне кнігі былі атрыманыя толькі ад прыватных фундатараў, сярод якіх Андрэй Зубачоў і Яўген Машонскі. Наклад абмежаваўся 200 асобнікамі. Таму зборнік не патрапіць на паліцы кнігарняў, а будзе распаўсюджвацца бясплатна як падарунак ці сувенір.

Зборнік — першае выданне Вілейскага гісторыка-краязнаўчага музея падобнага кшталту. Летась выйшаў "Вілейскі краязнаўчы зборнік", які сабраў матэрыялы краязнаўчай канферэнцыі. Абедзве кнігі выйшлі ў выдавецтве "Беларускі кнігазбор".

На наступны год запланаваны выхад кнігі "Памяць. Вілейскі раён".

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

■ ПАСЛУГІ

## Цёплы дом

**СМАРГОНЬ. На пачатку кастрычніка пачаў працаваць тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва (ТЦСАН) "Цёплы дом".**

Калектывам з 75 чалавек кіруе Галіна Русакевіч.

ТЦСАН створаны на базе раённага аддзялення сацыяльнай дапамогі на даму. Супрацоўнікі яго раней аказвалі паслугі толькі састарэлым і інвалідам. Цяпер у "Цёплы дом" за дапамогай можа звярнуцца кожны смаргонец.

Усяго у цэнтры чатыры аддзяленні. Першае — першасны прыём і аналіз. Тут захоўваюцца дадзеныя пра ўсе малаёмасныя, мнагадзетныя і няпоўныя сем'і, у тым ліку звесткі пра 44-х бацькоў, якія адны выхоўваюць дзяцей. Другое — самае вялікае — аддзяленне сацыяльнай дапамогі на даму. Як і раней, яно абслугоўвае сталых людзей Смаргоншчыны. Трэцяе — тэрміновая сацыяльна-эканамічная дапамога, дзе размяркоўваюць гуманітарную і атрымліваюць адрасную (грашовую) дапамогу. Чацвёртае — медыка-псіхалагічнае аддзяленне. З насельніцтвам працуюць кваліфікаваныя псіхолагі. Два разы на тыдзень вядзе прыём урач. Ёсць і свой цырульнік.

З 1 кастрычніка канкрэтная дапамога аказана 442-м смаргонцам. Напрыклад, 204 чалавекі атрымалі гуманітарную дапамогу. Семярых часова ўладкавалі на сацыяльныя ложкі ў бальніцы. У асноўным гэта вяскоўцы, якія засталіся адны, а зімовыя халады перажыць ім складана. З маёмасцю дапамаглі тром сем'ям-пагарэльцам. 10 чалавек звярнуліся да псіхолагаў...

Штодзень у "Цёплы дом" прыходзіць каля 50 чалавек.

**Ірына РАБУШКА.**

■ СУВЯЗІ

## Міжнародная маладзёжная канферэнцыя

**МАЛАДЗЕЧНА. 10-13 кастрычніка ў нямецкім горадзе Эслінген-на-Некары у рамках канферэнцыі гарадоў-партнёраў прайшла міжнародная маладзёжная канферэнцыя.**

Удзельнічалі прадстаўнікі 10 гарадоў з Венгрыі, Італіі, Францыі, Вялікабрытаніі, Славеніі, Швецыі, Польшчы, Галандыі, Германіі і Беларусі. Нашых землякоў прадстаўляла дэлегацыя з Маладзечна.

Спецыяліст гарадскога аддзела адукацыі Жанна Ангерчык расказала, што канферэнцыя дапамагла наладзіць сувязі і абмяняцца вопытам. Маладзечанцы распрацавалі маладзёжны праект "Дыялог культур на мове сяброўства", з якім азнаёмілі замежных калег. Згодна з ім малады людзі з краін-удзельніц будуць знаёміцца з культурай, мовай, народнымі звычкамі, вядомымі мясцінамі. Некаторыя пазнаёмяцца паміж сабой на тэрыторыі адной з краін.

Групу беларускіх дзяцей наступным летам чакаюць у польскім Пётркуве-Трыбунальскім. Аб паездцы беларусаў у Польшчу таксама дамовіліся на канферэнцыі. Магчыма арганізацыя міжнароднага летніка і ў Беларусі. Замежныя маладзёжныя арганізацыі маюць старонкі ў Інтэрнэце. Беларусы пакуль адстаюць. І гэта нязручна, бо праз Інтэрнэт можна хутчэй абменьвацца інфармацыяй. У бліжэйшых планах беларусаў — уваходжанне ў сусветную камп'ютэрную сетку.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ МЕРКАВАННІ

# Ці здолее БРСМ аб'яднаць моладзь?

**МАЛАДЗЕЧНА. Як будаваць маладзёжную палітыку ў горадзе, ці ёсць будучыня ў БРСМ? Пра гэта расказваюць дзве зацікаўленыя асобы: першы сакратар маладзечанскай арганізацыі БРСМ Аляксандр Бобрык і спецыяліст па рабоце з моладдзю гарадскога аддзела адукацыі Жанна Ангерчык.**

### Аляксандр Бобрык: БРСМ будзе па-за палітыкай

**— Ці згодны ты, што ў горадзе няма такой арганізацыі, якая б змагла аб'яднаць моладзь?**

— Так. БПСМ страціла роль лідэра. Чаму? Па-першае, кадры. Многія з членаў гарадскога апарату пайшлі ў вышэйстаячыя арганізацыі. Па-другое, грошы. Адной ідэалогіяй моладзь не зацікавіш. Каб праводзіць больш-менш масавыя мерапрыемствы, патрэбныя сродкі. Сёлета на рэалізацыю маладзёжнай палітыкі гарадскі бюджэт выдзеліў 1,2 мільёна рублёў. БПСМ і БСМ не атрымалі нічога з гэтага.

**— За які кошт вы праводзілі свае акцыі?**

— Супрацоўнічаем з прадпрымальнікамі, былымі членамі БПСМ і бацькамі цяперашніх сяброў нашых арганізацый.

**— Як вы будзеце аб'ядноўваць моладзь?**

— Будзем старацца зацікавіць маладога чалавека магчымасцю рэалізаваць свае планы. Зразумела, з падтрымкай органаў улады. Яна павінная быць зацікаўлена ў моцнай дзяржаўнай маладзёжнай арганізацыі. Інакш на моладзь змогуць паўплываць іншыя элементы. І не абавязкова ў станоўчы бок.

Мы збяром пазачарговае паседжанне пленума, складзём зварот да моладзі горада, стратэгію і план мерапрыемстваў.

**— Якіх?**

— Давайце пачакаем некалькі тыдняў.

**— Ці ёсць гарантыя, што моладзь не збяжыць ад вас?**

— Масавасць мы можам зрабіць — гэта ўжо праходзілі. Для нас галоўнае — якасць. Мы хацелі б, каб у БРСМ былі такія людзі, якія б маглі добра арганізаваць работу з моладдзю. Наладзіць такія мерапрыемствы, якія былі б цікавыя і значныя для шырокага кола. Прыкладам, дыскатэку, але пасля акцыі па дапамозе пажылым людзям. Ці вечар для сямейных пар пасля акцыі па добраўпарадкаванні дзіцячага сада.

Мы хацелі б мець першасныя арганізацыі ва ўсіх школах і іншых навучальных установах. І каб адміністрацыі не замінялі іх стварэнню, а далі моладзі адчуць сябе моцнымі ў вырашэнні ўласных праблем?

**— Вам патрэбная рэклама?**

— Рэкламу мы можам зрабіць самі. Былі б толькі грошы.

**— Вы гатовыя да таго, што горад на 2003 год нічога не дасць?**

— Так. Хацелі б толькі дапамогі ад гарвыканкома аб адкрыцці ліцэнзіі на гаспадарчую дзейнасць. За кошт прыбыткаў мы будзем рэалізоўваць свае праграмы.

**— БРСМ — палітычная арганізацыя?**

— Не. Мы запрашаем ініцыятыўную моладзь незалежна ад іх палітычных поглядаў.

**— А чым вашая арганізацыя адрозніваецца ад іншых?**

— Мы будзем аб'ядноўваць усю моладзь. І тых, хто вучыцца, і тых, хто працуе. Астатнія арганізацыі больш вузкія. Гайды аб'ядноўваюць толькі дзяўчынак, скауты — хлопцаў, піянеры — падлеткаў да 14 год, а "Зубр" — гэта незарэгістраваная палітычная арганізацыя.

### Жанна Ангерчык: запрашаю «зуброў» у госці

Чаму ў горадзе няма лідэра сярод дзіцячых і маладзёжных арганізацый? Мяркую, што да гэтай ролі ніхто і не імкнуўся. Кожная грамадская арганізацыя займае сваю нішу. Былі і сумесныя праекты.

Ды і згадзіцеся, многае залежыць і ад лідэра. Калі гэта пісьменны, паважаны і аўтарытэтны чалавек, то моладзь за ім пойдзе.

**— Ці змогуць былыя лідэры БПСМ і БСМ зрабіць у БРСМ тое, што не ўдавалася ім раней, — аб'яднаць вакол сябе маладзечанскую моладзь?**

— Аляксандра Бобрыка ведаю лепш — гайды рэалізавалі некалькі праектаў сумесна з БПСМ. Гэта здольны лідэр, але я парэкамендавала б яму крыху змяніць стыль работы. Больш карэктна трэба гаварыць з адміністрацыямі школ, больш сістэмна наладзіць сваю работу, усе справы даводзіць да канца. Тады ў школах будуць моцныя першасныя арганізацыі, моладзь будзе давяраць БРСМ. Адміністрацыі школ зацікаўленыя ў гэтым. Пра гэта школьныя кіраўнікі гаварылі на сходзе.


Фота Ірыны РАБУШКІ.

Спецыяліст гарадскога аддзела адукацыі па рабоце з моладдзю Жанна Ангерчык.

Я спадзяюся, што новая арганізацыя будзе працаваць у кантакце з гарвыканкомам і са мной, у прыватнасці. Дзяржава зацікаўленая ў моцнай маладзёжнай арганізацыі. У горадзе зарэгістравана 10 грамадскіх арганізацый, якія могуць разлічваць на падтрымку сваіх праграм з боку гарвыканкома. Але на гэты год на рэалізацыю маладзёжнай палітыкі запланавана 500 тысяч рублёў. Гэтага мала. Таму стараемся дапамагчы іншымі спосабамі. Цяпер арганізавалі школу "Лідэр" на базе СШ №8, дзе будзем рыхтаваць кваліфікаваных маладзёжных лідэраў. Таксама наладзілі семінар на тэму прафілактыкі СНІДу і венерычных захворванняў.

Ёсць моладзь, якая аб'ядналася ў незарэгістраваныя арганізацыі накшалт «Зубра». Гэтыя падлеткі нічым не горшыя за іншых. Я хацела б пазнаёміцца з імі, больш даведацца пра іх дзейнасць. Магчыма, мы знойдзем агульныя інтарэсы і правядзём сумесныя акцыі. Хачу запэўніць, што гарвыканкому неабыякавы і іх лёс.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

 



■ АДУКАЦЫЯ

# ПТВ-87 стараецца жыць за свой кошт

**МАЛАДЗЕЧНА. З 2001 года ў ПТВ-87 вучыцца рэкордная колькасць навучэнцаў – 525 чалавек. Дырэктар вучылішча Пётр Місюль тлумачыць гэта пікам нараджальнасці, які прыпаў на 1983-85 гады. Год праз пяць колькасць дзяцей зменшыцца.**

Такую тэндэнцыю ўжо адчулі школы, таму яны імкнуцца не адпускаць дзяцей пасля дзевяці класаў.

**Колькасць месцаў для выпускнікоў школ за апошнія гады**




**ПТВ-87 было заснавана на базе завода "Спадарожнік" у 1966 годзе. У 76-м быў пабудаваны вытворчы корпус, а ў 68-м – вучэбны. Колькасць навучэнцаў у ПТВ-87 паступова расце. Сёння тут займаецца 525 падлеткаў. Па беларускім заканадаўстве першая прафесійная адукацыя бясплатная. Платнага навучання няма. Хто не прайшоў па конкурсу, вымушаны шукаць іншыя месцы навучання.**



Фота Мікалая ХАДАСЕВІЧА.

**Навучэнцы ПТВ-87 не толькі асвойваюць сваю прафесію, але і зарабляюць падчас вучобы грошы.**

## Конкурс

Сёлета было шмат жадаючых стаць навучэнцам ПТВ-87, пра што сведчыць конкурс на некаторыя спецыяльнасці. Прыкладам, на аператара ЭВМ паступалі тры чалавекі на месца з прахадным балам атэстата 4,6. Стаць афіцыянтам ці барменам хацеў 81 выпускнік. Узялі толькі 30. Такія спецыяльнасці, як механік па металаапрацоўцы, токар, слесар, радыёмеханік, таксама запатрабаваныя – маладзечанскія заводы і прадпрыемствы звяртаюцца да ПТВ-87 з просьбай дасылаць выпускнікоў.

Вучняў набіраюць з усёй Беларусі. Усім даецца інтэрнат. Праўда, пабудаваны ў далёкім 1960 годзе, капрамонт там не праводзіўся. Чаму? Адказ у апошні час стаў банальным – няма грошай. Тэхнічная база вучылішча састарэла. У вучэбных цэхах станкі не "маладзейшыя" за 1967 год.

## Самафінансаванне

ПТВ-87 фінансуецца з абласнога бюджэту. Уся фінансавая падтрымка заканчваецца на выплаце зарплат выкладчыкам. У астатнім вучылішча жыве за свой кошт. Побач з вучэбным корпусам ёсць майстэрні, дзе вучні пад наглядам майстроў выконваюць заказы гарадскіх прадпрыемстваў. Кантракты заключаліся з "Унікабам", "Беларускім таварыствам інвалідаў па зроку", "РосБелПраёмам". Вырабляюць і сваю прадукцыю – замкі, нажніцы для рэзкі металу, тумбачкі і інш. Атрыманыя грошы адразу накіроўваюцца на іншыя выдаткі. Плаціць трэба за электраэнергію, ваду, тэлефон, рамонт будынкаў, цяпер за ацяпленне.

Тым не менш у вучылішча ёсць даўгі, на сёння каля 12 мільёнаў рублёў. Пётр Місюль гаворыць, што гэта далёка не самая буйная сума ў параўнанні з тымі сумамі, якія павінны іншыя вучылішчы.

## Заработная плата

Аклад дырэктара вучылішча – 89 тысяч. З рознымі надбаўкамі набягае крыху больш за 200 тысяч рублёў у месяц. Нярэдка майстры, выкладчыкі спецпрадметаў, атрымліваюць больш за дырэктара. Яны маюць правa на 10 працэнтаў ад агульнага заробку сваёй групы. Калі добра арганізаваць работу свайго калектыву, можна атрымаць добры дадатак да месячнага заробку.

## Дапамога

12 год цягнуцца сяброўскія адносіны з прафесійнай школай імя Фрыдрыха Эберта, што ў нямецкім горадзе Эслінген. Наладжаны абмен вучнямі, немцы аказваюць дапамогу. Пётр Місюль гаворыць, што немцаў ведае даўно, звычайна пытанні ў іх адразу не вырашаюцца. Прывёў прыклад, як аднойчы ў аўтобусе яны каля дзвюх гадзін выраШалі, дзе трэба спыніцца на адпачынак: тут ці праз сто метраў.

## Планы на будучыню

Пётр Іосіфавіч з 2005 года хоча спыніць прыём школьнікаў пасля 9-га класа. А навучанне можа стаць двухузроўневым. На першым этапе навучэнцы будуць атрымліваць спецыяльнасць. Пасля тыя, хто добра вучыцца, зможа працягваць навучанне і атрымаць адукацыю на ўзроўні сучаснага тэхнікума.

**Алег ГАРУНОВІЧ, Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 10 кастрычніка | 17 кастрычніка |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 1872,00 руб. | **1875,00** руб. |
| Еўра | 1832,22 руб. | **1840,03** руб. |
| Злоты | 448,71 руб. | **453,04** руб. |
| Літ | 530,65 руб. | **532,98** руб. |
| Расійскі рубель | 59,09 руб. | **59,19** руб. |

**"Вулічныя" курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1840-1880 руб. | **1840-1880** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 9.10 | 16.10 |
|---|---|---|
| **Кілбаса с/вялен.**, 1 кг | 11890 | **11700** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 4900 | **4900** |
| **Селядзец**, 1 кг | 2500 | **2500** |
| **Рыс**, 1 кг | 700 | **700** |
| **Грэчка**, 1 кг | 550 | **530** |
| **Цукар**, 1 кг | 815 | **815** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 1200 | **1200** |
| **Алей**, 1 л | 1900 | **1800** |
| **Маянэз**, 200 г | 400 | **420** |
| **Кава "Пеле"**, 100 г | 1900 | **1900** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 580 | **600** |
| **Соус там. «Мінскі»**, 0,5 л | 650 | **680** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 520 | **540** |
| **Капуста**, 1 кг | 400 | **450** |
| **Лімоны**, 1 кг | 1680 | **1650** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 1450 | **1500** |
| **Агуркі**, 1 кг | 1500 | **1500** |
| **Памідоры**, 1 кг | 680 | **700** |
| **Кавуны**, 1 кг | 200 | **250** |
| **Морква**, 1 кг | 420 | **500** |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| **Малако**, 1 л | 700 | **600** |
| **Смятана**, 1 л | 1800 | **2000** |
| **Масла**, 1 кг | 3600 | **3800** |
| **Тварог**, 1 кг | 2000 | **1600** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 1500 | **1600** |
| **Бульба**, 1 вядро | 2800 | **2800** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 700 | **250** |
| **Журавіны**, 5-л. вядро | 6000 | **6500** |
| **Вінаград**, 5-л. вядро | 2000 | **2500** |

■ ЖЫЦЦЁ ПРАДПРЫМАЛЬНІЦКАЕ

# Пасля забастоўкі

**Усяго ў Вілейскім раёне каля 1100 прадпрымальнікаў. Гандлем з палатак займаюцца каля 400. Падаткі прадпрымальнікаў складаюць у раённым бюджэце 3,6 працэнта.**

9 кастрычніка страйк прадпрымальнікаў у Вілейцы скончыўся. Між тым прадпрымальніцкае жыццё са сваімі праблемамі працягваецца.

Першапачаткова рынак месціўся на пляцы Леніна. Каля двух гадоў таму рынак перанеслі за гарадскі парк. Гэта выклікала некалькі праблем: па-першае, усім гандлярам стала не хапаць месца, па-другое, узнік дыскамфорт ад суседства рынку з грамадскай прыбіральняй. Але паступова праблемы рашаюцца.

Скончыўся першы этап пашырэння гандлёвага рынку. Яго плошча павялічылася прыблізна ў паўтара раза – прыбавілася каля 70 гандлёвых месцаў, але усё адно ўсе жадаючыя не змяшчаюцца. На чарзе яшчэ адно пашырэнне тэрыторыі. 4 кастрычніка 105 прадпрымальнікаў падалі ў раённы выканаўчы камітэт зварот, падтрыманы прафсаюзнай арганізацыяй прадпрымальнікаў, у якім гаворыцца аб мэтазгоднасці перамяшчэння гандляроў-харчавікоў на калгасны рынак з мэтай вызваліць месца для гандляроў-рэчавікоў і пад будаўніцтва павільёнаў.

Будоўля першага ў Вілейцы платнага грамадскага туалета, які размясціўся ў гарадскім парку ў сотні метрах ад рынку, прыпынілася з прычыны недахопу сродкаў.Назваць тэрміны заканчэння будаўніцтва складана. Найхутчэй, работы адновяцца пасля зімы. На цяперашні час Вілейская санстанцыя дазволіла гандаль у ранейшай блізкасці ад грамадскага туалета.

Зараз адбываецца падзел прадпрымальнікаў паміж двума структурамі. З аднаго боку, гэта прафсаюз прадпрымальнікаў, з другога – савет індывідуальных прадпрымальнікаў, створаны па ініцыятыве райвыканкома з 15 чалавек, сярод якіх – прадстаўнікі гандляроў, прамысловасці, транспартнікаў. Падобныя савет у сталіцы і вобласці створаны толькі ў Мінску. Непаразуменні паміж гэтымі структурамі праявіліся ў стаўленні да нядаўняй забастоўкі. Да яго крытычна паставіліся прадпрымальнікі, якія ўвайшлі ў савет.

Сярод прадпрымальнікаў адносна савета існуюць розныя пазіцыі. Адна частка прадпрымальнікаў выказваецца аб савеце з недаверам. Спрэчкі выклікае працэс фармавання складу савета. Другая частка адмоўна ацэньвае дзейнасць прафсаюза і спадзяецца, што савет дазволіць канструктыўна вырашаць праблемы перспектыўнага развіцця прадпрымальніцтва.

Пры гэтым усе пагаджаюцца, што праблемы, якія ёсць у бізнесе, трэба вырашаць.

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

■ АБ НАДЗЁННЫМ

# Віляйчане сустракаюцца з палітыкамі

**10 кастрычніка па запрашэнні Вілейскага клуба выбаршчыкаў у Вілейку прыехалі дэпутат палаты прадстаўнікоў ад Вілейскай выбарчай акругі Ігар Баслык і старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька.**

У актавай зале Дома культуры адбылася іх сумесная сустрэча з жыхарамі горада. Сустрэча з палітыкамі прыйшло каля 50 чалавек. Гасцям задаваліся шматлікія, а часам і вострыя пытанні. Канстатавалася пагаршэнне сітуацыі ў розных сферах нашага жыцця, называліся шляхі выхаду з крызісу. Сход працягваўся больш за тры гадзіны.

На сходзе прагучала прапанова патрабаваць адстаўкі дзеючага прэзідэнта. Не абышлося без палемікі паміж запрошанымі гасцямі, але скончылася яна разуменнем мэтазгоднасці далейшых кантактаў.

На пытанне аб магчымым павышэнні пенсійнага ўзросту Ігар Баслык адказаў, што пытанне апраўданае, але запэўніў, што парламент на гэта не пойдзе. Гэта магчыма толькі праз дэкрэт прэзідэнта. Па яго словах, калі цяперашняя сітуацыя захаваецца, праз год не будзе чым плаціць пенсіі. Зараз на 17 працуючых прыпадае 10 непрацуючых.

Выказаўся Ігар Баслык таксама наконт неабходнасці спрашчэння падатковай сістэмы, сістэмы рэгістрацыі і ліцэнзавання. Да гэтага часу парламент не змог прасунуць рашэнне гэтых праблем.

Дэпутат назваў інвеставанне сельскай гаспадаркі заганнай практыкай. Між тым у сваёй перадвыбарчай праграме два гады таму адным з першых пунктаў ён называў прыярытэтным развіццё сельскай гаспадаркі.

На першую частку пытання, што перашкаджае дэпутатам выправіць сітуацыю і ў якой ступені яны нясуць адказнасць за сітуацыю ў краіне, Ігар Баслык адказаў, што паўнамоцтвы парламента ў адпаведнасці з прынятай на рэферэндуме ў 1996-м годзе Канстытуцыі не дазваляюць рэалізаваць ініцыятывы. Праекты заканадаўчых актаў распрацоўваюцца адміністрацыяй прэзідэнта і Саветам Міністраў. Усё трэба ўзгадняць з адміністрацыяй прэзідэнта. Другая частка гэтага пытання засталася без адказу.

Практычна ўсе адказы паказвалі, што дэпутаты парламента жадаюць выправіць сітуацыю, але не маюць патрэбных паўнамоцтваў.

Вілейка стала 16-м рэгіёнам, які наведаў гэты палітык за апошнія паўтара месяца. Перад гэтым ён быў у Астраўцы.

Ён гаварыў пра цяжкі эканамічны стан, нізкі ўзровень жыцця насельніцтва. Толькі 6 % беларускіх прадпрыемстваў могуць канкураваць на сусветным рынку. Каля 80 % насельніцтва знаходзіцца ў фінансавай залежнасці ад улады. Падверг крытыцы палату прадстаўнікоў, назваўшы яе аддзелам адміністрацыі прэзідэнта. Дэпутаты, на яго думку, галасуюць механічна. Так адбываецца, бо дэпутаты не залежаць ад выбаршчыкаў. Палата прадстаўнікоў не мае нават сваёй бухгалтэрыі – зарплата дэпутатам выплачваецца з адміністрацыі прэзідэнта. Лябедзька назваў дзікунскай сітуацыю, калі ў краіне ёсць два бюджэты, якія не кантралююцца парламентам.

Выхад Анатоль Лябедзька бачыць у прыцягненні буйных замежных інвестыцый.

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

 

# Будзьце асцярожныя – шаленства!

## Здарэнне на Маладзечаншчыне

**МАЛАДЗЕЧНА. Такога пачатку паляўнічага сезона ў раёне яшчэ не было – у першы ж дзень застрэлілі шалёных ліс. Гэта першы сёлета выяўлены выпадак шаленства жывёл ў раёне.**

Браты Вікенцій і Іван Сакалдынскія, якія жывуць у Мінску, ў першыя выхадныя кастрычніка прыехалі да бацькоў у вёску Еленка. Абодва захапляліся паляваннем.

Разказвае бацька братоў **Віктар Сакалдынскі**:

– Іван і Вікенцій вярнуліся з палявання дзесьці каля 5 гадзін вечара. Расказалі, што застрэлілі дзве лісы. Прынеслі іх у гараж, знялі шкуры, якія загарнулі ў плёнку і пакінулі. Тушкі закапалі ў лесе. Але браты былі насцярожаныя – гаварылі, што лісы могуць быць шалёныя.

Браты адрэзалі лісам галовы і завезлі ў Мінск у абласную ветэрынарную лабараторыю на праверку. Там і ўстанавілі шаленства. Адразу правілі дэзінфекцыю гаража і падворка.

Аб гэтым абвясцілі маладзечанскіх эпідэміёлагаў і работнікаў ветэрынарных службаў. Братоў мінскія медыкі ўзялі пад нагляд. А маладзечанскія паехалі ў Еленку. Віктар Сакалдынскі ад прышчэпкі адмовіўся. Сказаў, што да лісаў не дакранаўся. Па патрабаванні медыкаў напісаў гэта ў распісцы. Тушкі і шкуры лісаў спалілі.

У той дзень ля Еленкі палявалі каля 20 чалавек. І, як гавораць урачы, няма гарантыі, што яны не павезлі дадому шалёныя "трафеі".



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

Сыны жыхара вёскі Еленка Віктара Сакалдынскага застрэлілі шалёных ліс. Сам Віктар Барысавіч ад прышчэпкі адмовіўся. Гаворыць, што да ліс не датыкаўся.

### Паляўнічыя ведаюць пра шаленства ліс

— Кожны паляўнічы ведае, што лісы могуць быць шалёнымі, – сказаў старшы паляўнічтвазнавец Маладзечанскага таварыства паляўнічых і рыбаловаў **Уладзімір Саковіч**.

Пры ўручэнні паляўнічага білета кожнага папярэджваюць, што мяса застрэленай лісы трэба здаваць у абласную ветэрынарную лабараторыю для праверкі на шаленства. А шкурку трэба знімаць у пальчатках.

Ёсць верагоднасць, што ў раёне Еленкі яшчэ ёсць шалёныя лісы.

### Бадзяжных жывёл будуць адстрэльваць

У сувязі з выпадкам каля Еленкі Маладзечанскі райвыканком выдаў распараджэнне, згодна з якім абавязаў старшыняў Аляхновіцкага, Гарадоцкага сельскіх Саветаў, дырэктара Маладзечанскага лясгаса арганізаваць адстрэл дзікіх жывёл, а таксама бадзяжных сабак і катоў.

Таксама пастанавілі абмежаваць паляванне на тэрыторый Гарадоцкай паляўнічай дачы да 10 снежня.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ **ПЕРАСЦЯРОГА**

### Паміраюць нават людзі

Сёлета ў Беларусі ад шаленства памёр 1 чалавек.

У Оршы маладога мужчыну ўкусіў бадзяжны сабака. Чалавек не звярнуўся за медыцынскай дапамогай, укус зажыў. Праз некалькі месяцаў мужчына пачаў скардзіцца на святлабоязь і вадабоязь. Урачы ўстанавілі, што мужчына хворы на шаленства. Вылечыць яго было ўжо немагчыма.

Інкубацыйны перыяд гэтай хваробы цягнецца да года. У гэты час відавочных сімптомаў няма. Лячэнне магчымае толькі падчас інкубацыйнага перыяду.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ **ДАВЕДКА «РГ»**

### Што такое шаленства

**Шаленства – гэта віруснае захворванне людзей і жывёл, якое заканчваецца смерцю.**

Галоўнай крыніцай узбуджальніка шаленства з'яўляюцца дзікія жывёлы – лісы, ваўкі, яноты, а таксама бадзяжныя сабакі і каты. Сярод іх пастаянна рэгіструюцца ўспышкі хваробы. Ад жывёл заражаюцца шаленствам свойскія жывёлы і людзі.

Шаленства перадаецца са слінай праз аблізванне, укусы і іншыя пашкоджанні скуры. Заразіцца можна і праз датыканне да прадметаў, на якіх засталася сліна хворага.

Шаленства ў жывёл працякае ў буйнай і ціхай формах. Прызнакі захворвання – слінацячэнне, агрэсіўнасць, паралічы. Сабакі і каты часцей хварэюць буйнай формай. Яны дрэнна ядуць, уцякаюць з дома, могуць грызці і прагнынаць прадметы, непрыдатныя для яды, голас становіцца хрыплым. Сабакі і каты могуць без прычыны кусаць людзей і іншых жывёл. Часцяком церпяць уладальнікі свойскіх жывёл.

Аднак чалавека найчасцей заражаюць дзікія жывёлы, асабліва лісы. Падчас хваробы жывёлы без страху ў дзённы час заходзяць у населеныя пункты, падыходзяць да людзей і могуць укусіць.

Пік захворванняў на шаленства прыходзіцца на ліпень-жнівень і іншыя восеньскія месяцы. У лесе падрастае маладняк дзікіх звяроў, а ў гарадах і асабліва дачных масівах рэзка расце колькасць беспрытульных сабак і катоў.

Калі вас укусіла жывёла – звяртайцеся за дапамогай да медыкаў.

МАЛАДЗЕЧНА. Па статыстыцы, у 80% выпадкаў шалёныя жывёлы заражаюць чалавека. Калі вы пацярпелі ад свойскай жывёлы, то за ёй назіраюць на працягу 10 дзён. Тады робяць выснову, ці хворая жывёла на шаленства. Калі вы пацярпелі ад дзікай ці бадзяжнай жывёлы, то курс лячэння прызначаецца адразу.

Вакцынацыя для грамадзян Беларусі бясплатная. Курс лячэння – да трох месяцаў. З пачатку года ў Маладзечанскі цэнтр гігіены і эпідэміялогіі па дапамогу звярнуліся 24 чалавекі, якіх пакусалі дзікія жывёлы.

**Падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.**

■ **ПРАБЛЕМА**

## Мы ў адказе за тых, каго прыручылі

**Кожны, хто бярэ сабаку ў дом, павінны памятаць: мы ў адказе за тых, каго прыручылі. Часта чалавек пра гэтае забывае і выганяе сябра. Чалавек становіцца свабодным, а сабака – бадзяжным. Да таго ж, магчымай крыніцай шаленства, якую трэба ліквідаваць.**

МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА. Наш рэгіён не выключэнне.

У Маладзечанскай аўтаспецгаспадарцы ўнітарнага прадпрыемства "Камунальнік" ёсць спецбрыгада па адлове. Яна складаецца з трох чалавек. З пачатку года ўмярцвілі 531 сабаку. Штогод — каля 800 сабак.

— Іх альбо адстрэльваюць з паветранага ружжа, альбо ўсыпляюць уколам, – гаворыць галоўны ўрач раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі **Міхаіл Грабоўскі**. — Перыядычнасць адлову сабак залежыць ад наяўнасці грошай. Па правілах адлоўленыя сабакі павінныя ўтрымлівацца ў вальерах, што на гарадской звалцы, 5 дзён. І толькі потым іх можна ўсыпляць.

Цяпер сабакі ўмярцвляюцца адразу. Іх закопваюць у спецыяльную яму.

У Вілейцы ёсць вальеры, якія таксама знаходзяцца на гарадской звалцы. Калі на працягу трох дзён гаспадары не забіраюць сабак, то жывёл умярцвляюць уколам.

Штогод умярцвляюць каля 60 сабак. Дыспетчар гарадскога ўнітарнага прадпрыемства Вілейскага ЖКГ **Марына Каляда** гаворыць, што ў райцэнтры спецыялізаванай брыгады па адлову сабак няма. 2-3 разы на тыдзень сабак ловяць грузчыкі.

Людзі баяцца заразіцца шаленствам ад сабак. Але, прыкладам, за 18 гадоў працы галоўнага ўрача Маладзечанскага супрацьтуберкулёзнага дыспансера **Людмілы Сіняўскай** у інфекцыйным аддзяленні дыспансера з падазрэннем на шаленства ніводнага чалавека не лячылі.

**Ірына РАБУШКА.**



Фота IREX/ProMedia.

Бадзяжных сабак можна сустрэць паўсюдна.

■ **"РГ"-СТАТЫСТЫКА**

## Ліс больш за ўсё на Смаргоншчыне

Лісы – лідэры сярод дзікіх жывёл па захворванні на шаленства. Колькі ж прыкладна ліс у рэгіёне?

Мы атрымалі афіцыйныя лічбы ад раённых таварыстваў паляўнічых і рыбаловаў, інспекцый па ахове прыроды і навакольнага асяроддзя і лясгасаў. Але нас папярэдзілі, што рэальная папуляцыя лісаў можа быць у некалькі разоў большая, бо апошнія дадзеныя па стане на люты гэтага года.

### Колькасць лесу ў рэгіёне




### Колькасць ліс у рэгіёне




Часцей з лісамі можна сустрэцца на Гродзеншчыне, асабліва ў ашмянскіх і смаргонскіх лясах.

**Падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**

■ БІЛЬЯРД

# Першы рэспубліканскі турнір у Маладзечне

**МАЛАДЗЕЧНА. Рэспубліканскі рэйтынгавы турнір, упершыню праведзены тут, атрымаўся не камяком.**

На карысць арганізатараў гавораць і прысутнасць балельшчыкаў (як мясцовых, так і мінчан), і салідныя прызы для пераможцаў. На турнір прыехалі вядомыя асобы – віцэ-прэзідэнт нацыянальнага алімпійскага камітэта Мікалай Ананьеў, гарадскія кіраўнікі **Мікалай Чурсін, Яфім Ідэльчык, Мікалай Шрымф**, усе функцыянеры асацыяцыі більярднага спорту, здымачная група БТ на чале з Уладзімірам Навіцкім. Гулялі ў "піраміду" па амерыканскім варыянце, дзе кожным шарам можна біць па кожным, а перамагае ў партыі той, хто першым заб'е восем шароў (усяго іх 15). Чым бліжэй да фіналу, тым у большай колькасці партый трэба перамагчы.



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**На чэмпіянаце краіны па більярдзе сярод аматараў маладзечанец Уладзімір Патапаў стаў сярэбраным прызёрам.**

### Турнірная барацьба

Праводзіўся турнір па сістэме, прынятай на многіх міжнародных спаборніцтвах. Для 28-мі удзельнікаў склалі "сетку", згодна з якой у васьмёрку лепшых чацвёра спартсменаў прабіваліся прамым шляхам, а яшчэ чацвёра выходзілі з суцяшальнага турніру, дзе змагаліся тыя, хто саступіў адзін раз.

Загружаны ўсялякімі клопатамі, уладальнік "Караліны" **Іван Раковіч** прызнаваўся, што, калі падыходзіў да стала згуляць свой чарговы матч, то проста адпачываў. Зразумела, яго гульня стабільнасцю не адзначалася. Тым не менш, саступіў толькі вельмі моцным сапернікам. Спачатку пераможца члена маладзёжнай зборнай мінчаніна Міхаіла Далгова 3:2. Затым прайграў 1:3 Сяргею Братчуку з Брэста, які да маладзечанскага турніру лідзіраваў у рэйтынгавай гонцы. У суцяшальныя турніры паслядоўна перамог дэбютанта Аляксандра Касцюкаўца з Мінска – 3:2, абсалютнага чэмпіёна краіны Ігара Купаву са Слоніма – 3:2 (тым самым не прапусціў яго ў чвэрцьфінал) і Сяргея Багданава з Віцебска – 4:0.

Пачынаючы з 1/4-й фіналу, той, хто прайграў, выбываў адразу ж. Раковіч саступіў там аднаму з лепшых у краіне більярдыстаў Янушу Маркацынскаму з Баранавічаў – 1:5. У выніку трэцяе месца на турніры падзялілі Маркацынскі і мінчанін Антон Падсаднік з клуба "Трактар". У фінале ж у апошні дзень спаборніцтваў сустрэліся прадстаўнікі сталіцы Рамуальд Шчаўкун і Аляксандр Жылкін (клуб "Вена"). Перамог Шчаўкун з лікам 6:3.

Пасля чатырох рэйтынгавых турніраў у выніковай класіфікацыі лідзіруюць Шчаўкун (1260 ачкоў), Жылкін (1220), Братчук (1090), Маркацынскі (1010). Раковіч ідзе восьмым (770), 90 ачкоў саступае таму, хто на 5-м месцы, і на 100 апярэджвае таго, хто знаходзіцца на 9-м.

### Маладым у нас дарога

Варта зазначыць малады ўзрост многіх спартсменаў. Напрыклад, Шчаўкуну, Маркацынскаму, Падсадніку няма яшчэ і дваццаці гадоў. Беларускі більярд дзякуючы адкрыццю ўсё новых і новых клубаў як у сталіцы, так і на перыферыі (Слонім, Брэст, Віцебск) вельмі памаладзеў. Вядомым сталым гульцам усё цяжэй даюцца перамогі над падрастаючай зменай.

### Жыццё ў «Караліне» кіпіць

На нядаўнім чэмпіянаце краіны сярод аматараў у Мінску другое месца з 42 удзельнікаў заняў маладзечанец **Уладзімір Патапаў**. Ён сталага ўзросту, працуе ў бізнесе. Більярд для яго проста хобі. Аднак вынік прадэманстраваў зайздросны.

У самім клубе "Караліна" плануюць штомесяц арганізоўваць розныя турніры. Так, у бліжэйшых планах правядзенне чэмпіянату горада. А нядаўна дзякуючы публікацыі ў "РГ" на таварыскую сустрэчу-трэніроўку збіраліся прыехаць аматары кія са Смаргоні.

Ёсць планы на наступны год выступіць у клубным чэмпіянаце краіны. Маладзечанскі клуб стаў чатырнаццатым па ліку ў Беларусі. Дагэтуль усе клубы выступалі ў адной лізе. Зараз, магчыма, будуць падзелены на вышэйшую і першую лігу. Хто будзе выступаць за наш клуб? Ды маладыя хлопцы, якім не больш за 15-16 гадоў, усяго за паўгода трэніровак значна прыбавілі ў майстэрстве. Гэта браты **Ілья** і **Аляксей** (яму толькі 10) **Платонавы, Андрэй Верын, Аляксандр Салаўёў, Ягор Раковіч** (пляменнік Івана Раковіча). Каб згуляць на сапраўдным прафесійным узроўні, трэба як след патрэніравацца 2-3 гады. Так што, ў хуткім часе маладзечанскія хлопцы выйдуць на рэспубліканскую арбіту.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ФУТБОЛ, ВЫШЭЙШАЯ ЛІГА

## Будуць перамены ў расстаноўцы

Кантрольны матч. 13 кастрычніка. Тарпеда-МАЗ – Маладзечна-2000 5:1 (1:0).

Галы: Чаранкоў (27), Вяжэвіч (60, 78), Міхалёў (68), Пурцыладзе (85); Татун (65)

У першым тайме гулялі асноўным складам, пасля перапынку на поле выйшлі дублёры.

Зноў, як і ў чэмпіянатнай сустрэчы з дынамаўцамі Мінска, упэўнена на пазіцыі апошняга абаронцы дзейнічаў Сысой. Гэта азначае, што перад заключнымі матчамі сезона ў трэнераў з'явілася магчымасць узмацніць атаку, перавёўшы туды Азаронка. А на левым флангзе Сысоя добра замяніў Лявончык.

Каманда цяпер працуе ў рэжыме павышаных фізічных нагрузак. Тая ж сустрэча з мінскім "Дынама" паказала, што функцыянальная падрыхтоўка нашых хлопцаў адпавядае ўзроўню беларускай вышэйшай лігі. Коратка пра астатнія матчы сезона. У Барысаве 20 кастрычніка прыйдзецца вельмі складана: БАТЭ апошнія два матчы прайграў, кожная новая страта ачкоў для яго падобная смерці. На другі радок у табліцы ўзняліся "мазаўцы", з якімі сустракацца дома ў заключным туры 3 лістапада. Ачкі будуць тады неабходныя абедзвюм камандам. А вось віцябчане ў заключным туры згуляюць з армейцамі. У "Зоркі-ВА-БДУ" асаблівага турнірнага стымулу не назіраецца. Таму маладзечанцам не толькі нельга саступаць у Віцебску 30 кастрычніка, але і дома з брэстаўчанамі 26 кастрычніка таксама.

Складаная фінансавая сітуацыя ў маладзечанскім клубе захоўваецца. А тут яшчэ сцюдзёнае надвор'е. Пакоі на клубнай базе амаль не ацяпляюцца, футбалістам даводзіцца спаць у адзенні. Яны, натуральна, трываюць, але ж павялічваецца верагоднасць захварэць.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ФУТБОЛ, ПЕРШАЯ ЛІГА

## Дамашняя перамога «Смаргоні»

13 кастрычніка. Смаргонь – Днепр-ДЮСШ-1 (Рагачоў) 2:1 (2:1)

Суддзя Мікалай Мяцельскі (Мінск), 2000 гледачоў

Галы: Налівайка (13), Казлоў (26); Капельян (19)

Склад: Шляхавой, Іваноў (к), Давідовіч, Курак, Жачко, Налівайка, Чарнуха (Дукса, 30), Жаркоў (Міхадзюк, 85), Дзігілевіч, Шамшорык, Казлоў (Кошаль, 60)

Напрыканцы сезона паляпшаюць свае дзеянні футбалісты "Смаргоні". У матчы з рагачоўцамі яны мелі гульнявую перавагу, якая ўвасобілася і ў вынік.

**Налівайка** забіў, калі ўвайшоў у штрафную, абыграў двух абаронцаў, варатара і стрэліў пад перакладзіну. Сапернікі адыграліся пасля атакі левым флангам: паследавала перадача на кут штрафной, і адтуль быў моцны ўдар у блізкую дзевятку. Нашы выйшлі ўперад зноў намаганнямі Налівайкі, які працягнуў мяч уздоўж вонкавай лініі і прастрэліў на далёкую штангу, дзе спакойна падставіў нагу **Казлоў**.

Смаргонцы мелі яшчэ некалькі галявых момантаў, на вастрыі якіх знаходзіліся **Дзігілевіч, Іваноў**, Налівайка, які стаў лідэрам атак каманды. Праўда, маглі забіць і госці, нават іх варатар падключаўся да стандартнага становішча напрыканцы матча.

**Мікіта ЛІСТАПАД.**

■ ФУТБОЛ, ДРУГАЯ ЛІГА

# Канстанцін Харламаў замест Руслана Лукіна

**Са з'яўленнем у мінулым сезоне турніру дублюючых каманд вышэйшай лігі чысцінская "Забудова" страціла сваю функцыю галоўнага плацдарма падрыхтоўкі маладых футбалістаў для ФК "Маладзечна-2000".**

Апошнія два гады каманда прадстаўляла прадпрыемства "Забудова", але не маладзечанскі футбол у комплексе. У складзе выступалі пераважна прыезджыя футбалісты. Паказаны вынік (13 месца з 18 каманд летась і 9 месца з 13 каманд сёлета пры працэнце набраных ачкоў ад магчымага адпаведна 40% і 38%) не той, якім можна ганарыцца. Думаецца, патрачаныя на дасягненне гэтага выніку грошы лепш было аддаць не "варагам", а мясцовым хлопцам. Праўда, што тычыцца грошай, то іх было дастаткова толькі летась. Сёлета каманда з цяжкасцю трымалася на плыву, але, як бачым, на выніку гэта амаль не адбілася. У гэтыя два сезоны галоўным трэнерам працаваў **Руслан**



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Новы галоўны трэнер «Забудовы» Канстанцін Харламаў.**

**Лукін**, вядомы ў сваёй маладосці футбаліст, які выступаў за маладзёжную зборную СССР, за мінскае "Дынама", потым за беларускія клубы ў нацыянальным чэмпіянаце, у тым ліку, за "Маладзечна" ў сезонах 1993-96.

Цяпер ва ўсёй гэтай сітуацыі адбыліся змены. З падачы старшыні рэгіянальнай федэрацыі футбола **Альберта Дабранскага** галоўным трэнерам каманды прызначаны **Канстанцін Харламаў**. Ён, успомнім, некалькі месяцаў у 1994-м годзе ўзначальваў ФК "Маладзечна", потым наладжваў спартыўнае жыццё ў Беразінскім, працаваў з міні-футбольным "Металургам". Зараз вяртаецца ў вялікі футбол. Будзе рабіць стаўку на маладзечанскіх гульцоў, плануе больш увагі надаваць падрыхтоўцы рэзерву для нашай галоўнай каманды, напрыклад, усё ж такі дабіцца, каб нарэшце стабільна і якасна запрацавала на Чысці футбольнае аддзяленне раённай ДЮСШ.

А ўражаннямі аб мінулым сезоне падзяліўся былы галоўны трэнер чысцінцаў Руслан Лукін:

- Быў шэраг добрых матчаў. Мы двойчы перамаглі і трэцюю каманду мінскага "Дынама", і каманду РВАР, дзе сабраны лепшыя маладыя футбалісты краіны. Задаволены я матчамі ў Гомелі і Пінску. Запомнілася самаадданая гульня ў Маладзечне з "Верасам". З чацвёркай лідэраў у нас матчы не атрымаліся, змагацца з імі вельмі складана, але можна, за выключэннем хіба толькі МТЗ-РІПА. Прычына ў тым, што гэтая каманда мае належную фінансавую падпітку. У нас жа грошай амаль не было. Не было і інвентару. Увесь сезон правялі з двума мячамі, набылі толькі чатыры новыя пары бутсаў. Нездарма па восені нас пакінулі нападаючыя **Андрэй Міpановіч** і **Віктар Салаўёў**, якія пайшлі гуляць у міні-футбол, дзе большыя заробкі. Наогул за сезон праз каманду прайшлі каля 40 чалавек. Пачыналі мы амаль з нуля, а з цягам часу сфарміравўся пэўны касцяк. Сапраўднымі лідэрамі калектыву сталі **браты Канапелькі**, варатар **Андрэй** і абаронца **Алег**. Напярэдадні напярэдадзе адзначу **Віктара Урублеўскага**, памянёных ужо Міpановіча і Салаўёва. Дапамог у першым крузе даўні капітан абаронца **Сяргей Івашкевіч**. Пакрысе прагрэсіравала моладзь. З маладзечанскіх хлопцаў адзначу юнакоў 1985-га года нараджэння гульца цэнтральнай зоны **Антона Савіцкага** і нападаючага Арцёма Маргуна.

Падрыхтаваў **Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

## Табло

■ ФУТБОЛ, ДРУГАЯ ЛІГА

**5 кастрычніка. Забудова – Вертыкаль (Калінкавічы) 0:2 (0:0)**
Галы: (58), (61)

**13 кастрычніка. Пінск-900 – Забудова 2:0 (2:0)**
Галы: (10), (15)

Табліца чэмпіянату пакуль не набыла канчатковы выгляд: засталося правесці яшчэ два матчы з удзелам РВАРа. Тады "РГ" і змесціць выніковую табліцу.

Галы "Забудовы" сёлета забівалі: Міpановіч, Салаўёў – па 4; Відрук, В. Урублеўскі – па 3; Міхейчык – 2; Байлукоў, В. Ваўчок, Ал. Канапелька, Лукін, Маргун, Мартынаў, Савіцкі, Філіпаў – па 1.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ АМАТАРСКІ ФУТБОЛ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Турнір памяці Аляксандра Ракіцкага. Гулялі ў міні-футбол на паветры. Спачатку ў дзвюх групах па шэсць каманд. Потым былі стыкавыя матчы. У фінале за першае месца сустрэліся "Аўта" і "Крыніца". Асноўны час завяршыўся ўнічыю 8:8, а па серыі пенальці перамагла "Аўта".

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ АРМРЭСЛІНГ

**МЯДЗЕЛ.** Студэнт Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта **Валянцін Бабровіч**, які нарадзіўся ў Мядзеле, удала выступіў на чэмпіянаце свету па армрэслінгу ў Егіпце.

У вагавай катэгорыі да 60-ці кілаграмаў беларус стаў чацвёртым у схватках на правай руцэ. Валянціну 19 год, а змагаўся ён сярод дарослых.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ КАРАТЭ-ДО

Спартыўны клуб "Сакура" аб'яўляе набор у групы для заняткаў па каратэ-до. Арганізацыйны збор адбудзецца 23, 25 кастрычніка ў 18.00 у фае сярэдняй агульнаадукацыйнай школы мастацтваў па вул. Ф.Скарыны, 45.

■ НА ГЭТЫМ ТЫДНІ ГУЛЯЮЦЬ

**19.10 15-00 Смаргонь – Камунальнік (Слонім)**
У першым крузе 0:1 на выездзе

**20.10 БАТЭ (Барысаў) – Маладзечна-2000**
+1=0-6 8-20. У першым крузе 1:3 (Сідарэнка) дома



# ВІНШАВАНКІ

З днём нараджэння, **Людміла Рыгораўна Францкевіч**! Шчасцем і здароўем няхай сэрца будзе напоўнена! *Маладзечанскі хлебазавод, брыгада №1.*

Дарагую дачушку **Іначку Савіч** віншуем з 25-годдзем! Жадаем моцнага кахання, святла, шчасця, здароўя. *Людміла і Леанід Філіпчыкі.*

Любімую сястрычку **Іначку Савіч** віншуем з днём нараджэння! Жадаем шчасця і дабра, усмешак, сонца і цяпла! *Каця, Лёша.*

Мая любая матулечка **Іна Леанідаўна Савіч**! Віншую з днём нараджэння! Жадаю ўсяго самага лепшага, жаданага. *Сынок Максімка.*

Віншуем з днём нараджэння **Іну Савіч**! Жадаем шчасця, радасці, кахання, моцнага здароўя, сямейнага дабрабыту! *Сям'я Куліцкіх.*

Віншуем з днём нараджэння **Іну Леанідаўну Савіч**! Жадаем шчасця, здароўя, сямейнага дабрабыту, поспехаў у справах. *Матуля і татуля.*

Віншуем з гадавінай вяселля **Іну** і **Андрэя Савічаў**! Жадаем кахання, здароўя, шчасця, радасці, усмешак, цяпла. *Куліцкія і Філіпчыкі.*

Віншуем з днём нараджэння **Ванду Мечыславаўну Куліцкую**! Жадаем моцнага здароўя, сямейнага дабрабыту, шчасця, поспехаў. *Сям'я Філіпчыкаў.*

Віншуем дарагую свякроў і матулю **Ванду Мечыславаўну Куліцкую** з днём нараджэння! Здароўя, шчасця, кахання, цяпла. *Каця і Лёша.*

Віншуем з днём нараджэння **Ванду Мечыславаўну Куліцкую**! Жадаем здароўя, доўгіх год жыцця, шчасця, поспехаў, бадзёрасці. *Сваты са Стаханаўскай.*

Віншуем з днём нараджэння дарагую мамачку **Ванду Мечыславаўну Куліцкую**! Жадаем здароўя, шчасця, сямейнага дабрабыту. *Каця, Лёша, Дзіма, Коля.*

Віншуем **Вольгу Казерскую** з днём нараджэння! Жадаем моцнага здароўя, поспехаў у жыцці і ўдач. *Алёна Кузьміч.*

**Фёдар Уладзіміравіч Нашчынец**, віншуем з днём нараджэння! Жадаем даўгалецця, здароўя, шчасця, сямейнага дабрабыту. *Ірына і Мікалай Бондары.*

**Генадзю Кісялю.** З 25-годдзем! Желаем тебе синего неба, зеленого сада, цветущего поля, веселого взгляда, задорного смеха, упорства в ненастье, здоровья, любви и огромного счастья! *Жонка Алеся і сын Ілюша.*

**Марцінцы Плячко** дзесяць год! Шчаслівая зорачка асвятляе твой шлях. Пяшчотныя анёлы дораць нашую любоў. *Родныя.*

Віншуем любімую мамачку **Ніну Пятроўну Дрозд** з днём нараджэння! Жадаем моцнага здароўя, доўгіх год жыцця, шчасця. *Дачка, зяць, сын, Каця, Паша.*

Віншуем хросную дачушку **Таццяну Сінько** з 20-годдзем! Жадаем здароўя, шчасця. Заставайся мілай, добрай, любімай. *Сям'я Ясюкевічаў.*

Любімую жоначку **Волечку Дземідовіч** віншую з 5-годдзем нашага знаёмства! Жадаю кахання, здароўя, сямейнага дабрабыту. *Твой муж Саша.*

Віншуем з юбілеем **Вольгу Юр'еўну Каспяровіч**! Желаем счастья, светлых дней, здоровья, что всего ценней. *Жаўняровічы-Шылко.*

Любімага сына **Віталя Маліноўскага** віншуе з 17-годдзем *мама* і жадае шчасця, вечнай маладосці, незгасаючага агню ў сэрцы, здзяйснення мар.

**Віталя Маліноўскага** віншуем з днём нараджэння! Жадаем поспехаў, моцнага здароўя, заставацца жыццярадасным. *Дзядуля, бабуля Ракаўцы.*

## ■ ІМЯНІНЫ

**18 кастрычніка**
**Праваслаўныя**: Аляксея, Дзям'яна, Ерамея, Іоны, Мацвея, Піліпа, Пятра, Рыгора.
**Каталіцкія**: Лукача, Юльяна.
**19 кастрычніка**
**Праваслаўныя**: Фамы.
**Каталіцкія**: Земавіта, Пятра, Яна.
**20 кастрычніка**
**Праваслаўныя**: Пелагеі, Гервасія, Сяргея, Юльяна.
**Каталіцкія**: Ірэны, Яна.
**21 кастрычніка**
**Праваслаўныя**: Пелагеі, Таісы, Трыфана.
**Каталіцкія**: Урсулы, Гіляра, Якуба.
**22 кастрычніка**
**Праваслаўныя**: Афанасіі, Абрама, Андроніка, Максіма, Пятра, Якава.
**Каталіцкія**: Саламеі, Марка, Філіпа.
**23 кастрычніка**
**Праваслаўныя**: Амбросія, Амфілохія, Андрэя, Кір'яка, Феафіла, Яўлампія.
**Каталіцкія**: Тэклі, Севярына, Тодара, Яна.
**24 кастрычніка**
**Праваслаўныя**: Зінаіды, Піліпа.
**Каталіцкія**: Антона, Марціна.

## Кінатэатр «Радзіма»

**18-20 кастрычніка**

**"Агент па мянушцы Спот"**, ЗША – у 19.00. 19 і 20 кастрычніка – у 15.00 і 19.00. Суперагент ратуецца ад мафіі, абводзіць яе вакол пальца і заваёўвае сімпатыю ў людзей.

**"Перакрыжаванне"**, ЗША, камедыя – у 17.00 і 21.00. На шляху сябровак шмат вясёлых прыгодаў і складаных сітуацый.

**21-24 кастрычніка**

**"Алі"**, ЗША, 2 серыі – у 18.00 і 20.40.

**ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ:**

19 кастрычніка – **"Чараўнік краіны ОЗ"**, Расія – у 13.00.

20 кастрычніка – **"Лэдзі і валацуга"**, ЗША – у 13.00.

2-і паверх, БАР. У 21.00 у пятніцу, суботу і нядзелю — дыскатэка. Для школьнікаў – у суботу і нядзелю ў 17.00.

## Звярніце ўвагу

Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!

Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!

## Купон 42

рэгіянальная газета

**да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы».**
**Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў.**
**Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.**

тэкст

прозвішча, імя, адрас (не для друку)

■ АКЦЫЯ ПРАЦЯГВАЕЦЦА

# Абаронім усім светам свае канстытуцыйныя правы

## Улады прыдумваюць розныя законы, каб схавацца ад грамадскай крытыкі

Месяц таму, 5 верасня 2002 года, па ініцыятыве грамадскага аб'яднання "Беларуская асацыяцыя журналістаў" пачалася агульнанацыянальная кампанія за адмену артыкулаў 367 ("Паклёп у дачыненні Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь"), 368 ("Абраза Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь") і 369 ("Абраза прадстаўніка ўлады"). Да гэтай акцыі з першых крокаў далучыліся рэдакцыі незалежных газет, дэмакратычныя палітычныя партыі, іншыя грамадскія арганізацыі, а таксама многія нераўнадушныя грамадзяне, якія хочуць жыць у свабоднай Беларусі. Сабраныя тысячы подпісаў з патрабаваннем адмены адыёзных артыкулаў Крымінальнага Кодэкса. Кампанія працягваецца, да яе далучаюцца ўсё новыя прыхільнікі, нават за межамі краіны. Больш за 10 дэпутатаў Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы падпісаліся пад зваротам аб адмене вышэйзгаданых артыкулаў.

### Чаму ўзнікла пытанне аб адмене артыкулаў 367, 368 і 369 КК?

Кожны грамадзянін Рэспублікі Беларусь незалежна ад займаемага становішча ў грамадстве надзейна абаронены ад паклёпу і абразы. На гэты кошт у Крымінальным Кодэксе маюцца артыкулы 188 і 189. Вінаватыя ў такіх злачынствах могуць быць пакараны абмежаваннем волі да трох гадоў ці пазбаўленнем волі да двух гадоў. Зыходзячы з таго, што Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь ураўноўвае ўсіх перад законам і ніводнаму грамадзяніну не дае якіх-небудзь пераваг перад законам, здавалася б, што ўсе без выключэння грамадзяне павінныя быць, з аднаго боку, абароненыя законам, а з другога боку, у роўнай ступені несці адказнасць па дадзеных артыкулах КК. Тым больш, што спецыяльная норма, арт.190 КК, прадугледжвае адказнасць за ўсталяванне прамых ці ўскосных пераваг грамадзян у залежнасці ад іх пасады. Але ў нас усё адбываецца не так: менавіта пасада таго ці іншага грамадзяніна дае яму тую ці іншую ступень абароны ад закона – чым вышэй, тым больш надзейная ступень абароны. Відаць, з улікам сярэдневякавога разумення саслоўных пераваг цяперашнія беларускія заканадаўцы, калі прымалі новы Крымінальны Кодэкс, узвялі грамадзяніна-прэзідэнта ў ранг персоны, недатыкальнай для грамадскай крытыкі. Прытым чамусьці была забытая тая акалічнасць, што прэзідэнт краіны – усяго толькі грамадская фігура, якая выбіраецца на пэўны тэрмін. І, вядома, народ мае поўнае права на ўсебаковую крытыку яго дзеянняў.

Выразнікам публічнай крытыкі выступаюць, як правіла, журналісты. Таму ніводная ўлада не любіць незалежную прэсу. Дэмакратычная ўлада яе цярпіць і знаходзіць з ёй паразуменне. Аўтарытарная, і тым больш, таталітарная ўлада, якая імкнецца абмежавацца ад грамадства, журналістаў ненавідзіць, праследуе, садзіць у турмы, а то і знішчае.

Сёння трое нашых калег ужо адбываюць пакаранне ў месцах не вельмі аддаленых. Яшчэ супраць некалькіх журналістаў узбуджаны крымінальныя справы "за паклёп". Мы абараняем сваіх калег, абараняем не толькі і не столькі свае правы на свабодную прафесійную дзейнасць. У большай ступені мы абараняем права кожнага грамадзяніна краіны, грамадства ў цэлым атрымаць праз сродкі масавай інфармацыі аб'ектыўную і рознабаковую інфармацыю, права на свабоднае выказванне ў газетах, на тэлебачанні і радыё сваіх меркаванняў. Гэта – канстытуцыйныя права кожнага грамадзяніна Рэспублікі Беларусь. Менавіта так і павінна быць у дзяржаве, дзе народ і толькі народ з'яўляецца адзінай крыніцай улады (арт. 3 Канстытуцыі). Мы – за адмену артыкулаў Крымінальнага Кодэкса, якія вяртаюць нас у эпоху феадалізму, калі пад страхам знявалення не дазвалялася дрэнна гаварыць пра манарха.

### «Кругавая абарона»

Распрацоўшчыкі новага Крымінальнага Кодэкса паклапаціліся не толькі аб абароне ад крытыкі прэзідэнта краіны. Не забыліся яны і аб іншых прадстаўніках улады: ім "падарылі" артыкул 369 КК ("Абраза прадстаўніка ўлады"). Цяпер шарж, карыкатура, фельетон ці проста іранічная нататка ў газеце ў адносінах любога чыноўніка (ён жа прадстаўнік улады!) можа быць расцэнена як абраза. Крыўдзіцель за гэта можа атрымаць да трох гадоў пазбаўлення волі ("хіміі"). Па ўсім відаць, у "прадстаўніка ўлады" пакуль яшчэ не дайшлі рукі да гэтага артыкула. Але можна не сумнявацца, што калі ён застанецца ў Крымінальным Кодэксе, то яны не прамінуць ім скарыстацца. Не раз і не два. Вельмі ж ён "зручны": з яго дапамогай можна лёгка прыструніць любога журналіста, які ўздумае востра пакрытыкаваць прадстаўніка ўлады. Дарэчы, такі лёс можа чакаць і простых чытачоў – аўтараў пісьмаў у газеты. Небяспечнасць гэтага артыкула КК узмацняецца тым, што апарат чыноўнікаў краіны вырас за апошнія гады да неймаверных памераў. Справа дайшла да таго, што пачаўся зваротны працэс – яго скарачэнне. І ў дадзенай сітуацыі барацьба за захаванне "месца пад сонцам" будзе бязлітаснай: кожны выкрывальнік рызыкуе атрымаць ад пакрыўджанага чыноўніка глыбокі накаўт.

### Як рэалізаваць ініцыятыву?

Мы, калі пачыналі агульнанацыянальную кампанію па адмене згаданых артыкулаў КК, кіраваліся перш за ўсё артыкулам 99 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. У адпаведнасці з ім права заканадаўчай ініцыятывы могуць мець не менш за 50 чалавек, яны ж валодаюць і выбарчым правам. На жаль, гэты канстытуцыйны артыкул не забяспечаны надзейным заканадаўчым механізмам, што, дарэчы, не можа быць перашкодай для яго выкарыстання на практыцы. Мы спадзяёмся, што ў цяперашнім беларускім парламенце знойдуцца дэпутаты, якія, як і тысячы іншых грамадзян краіны, падтрымаюць ініцыятыву аб выключэнні з Крымінальнага Кодэкса ўказаных артыкулаў. Гэта тым важна, што кожны дэпутат Палаты прадстаўнікоў мае права заканадаўчай ініцыятывы і можа публічна выказаць сваю пазіцыю. Чым больш подпісаў мы збяром, тым мацней можа гучаць голас такіх дэпутатаў.

Беларусь засталася адзінай дзяржавай у Еўропе, дзе асуджаюць і саджаюць за краты журналістаў. Апошні падобны працэс адбыўся ў 1997 годзе ў Францыі. Там журналістам газеты "Le Monde" прысудзілі грашовы штраф за тое, што яны абразілі... мараканскага караля Хасана II. Але Еўрапейскі суд па правах чалавека ў сваім рашэнні ад 25 чэрвеня 2002 года прызнаў такую практыку заганнай, патлумачыўшы, у прыватнасці, што прывіляваны статус кіраўніка дзяржавы ў крымінальным праве супярэчыць сучасным палітычным канцэпцыям. На больш зразумелай мове гэта азначае, што ніводная асоба, які б высокі пост яна ні займала, не можа быць адмежавана ад грамадскай крытыкі. Больш таго, згодна з тым жа рашэннем суда, палітычныя дзеячы знаходзяцца пад пільным кантролем як журналістаў, так і грамадства, і таму, павінныя праяўляць цярпімасць да крытыкі сваіх дзеянняў і паводзін.

Мы не хочам канфліктаваць з уладай, не жадаем сварыцца з некаторымі дзяржаўнымі чыноўнікамі. Мы хочам толькі аднаго – каб журналістаў пакінулі ў спакоі і не перашкаджалі ім карыстацца гарантаваным правам на свабоду слова і друку. Мы за тое, каб гонар і годнасць кожнага грамадзяніна Рэспублікі Беларусь былі надзейна абароненыя законам. Але мы супраць таго, каб у нашым грамадстве былі касты абраных і касты тых, хто абаронены законам. Вось чаму мы патрабуем адмены артыкулаў КК, якім няма месца ў сучасным свеце.

**Міхаіл ПАСТУХОЎ,**
**Юрый ТАПАРАШАЎ,**
**юрысты Цэнтра прававой абароны СМІ пры АТ "Беларуская асацыяцыя журналістаў".**

P.S. Агульнанацыянальная кампанія за адмену артыкулаў 367, 368 і 369 Крымінальнага Кодэкса працягваецца.

**Ваш подпіс можа стаць асновай для заканадаўчай ініцыятывы па адмене вышэйзгаданых артыкулаў. Запоўнены купон просім накіраваць у рэдакцыю газеты.**
**Ваш подпіс – наш агульны выбар!**

### Купон

**Падтрымліваю зварот Беларускай асацыяцыі журналістаў аб адмене артыкулаў Крымінальнага Кодэкса "Паклёп у дачыненні Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь" (арт.367), "Абраза Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь" (арт.368) і "Абраза прадстаўніка ўлады" (арт.369)**

**Прозвішча, імя, імя па бацьку** ____________________

**Год нараджэння** ____________________

**Адрас** ____________________

**Асабісты подпіс** ____________________

■ ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

## Капуста марынаваная

Качан капусты разрэзаць на некалькі частак, капусныя лісты раз'яднаць і пакласці ў літровыя слоікі. Туды ж пакласці парэзаныя моркву, бурак, часнок і іншыя спецыі. Слоікі заліць кіпячым расолам, закрыць звычайнымі поліэтыленавымі накрыўкамі і пакінуць пры пакаёвай тэмпературы на 3-4 дні. Расол гатуецца так: на літр вады – 2 ст. лыжкі солі, 1 ст. лыжка цукру, крыху воцату. Капуста атрымліваецца ярка-ружовага колеру і на смак вельмі прыемная.

■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ МАЛАДЗЕЧАНЦАЎ

# Ці патрэбныя дробныя купюры?

**Апошнім часам у магазінах і іншых "грашовых" месцах часта не аддаюць дробныя грошы. Добра, калі гэта адбываецца на карысць пакупніка. Дарэчы, большасць апытаных лічыць, што буйныя купюры пачынаюцца з 5000 беларускіх рублёў і 5 долараў.**



**Ніна Анджапарыдзе, прадпрымальнік:**
— Канешне, непатрэбныя. Адны нязручнасці з імі. З кліентамі цяжка разлічвацца. Кашалёк тоўсты, а толку мала. Усе купюры да 500 рублёў "убрала б".



**Мікалай Высоцкі, прадпрымальнік:**
— Патрэбныя. Для дакладнага разліку з пакупнікамі. А наогул, так ужо было: спачатку "убралі" дробныя грошы, потым нулі адкінулі і нарэшце памянялі грошы.



**Аляксандр Капцёнак, рабочы:**
— Беларускія? Не, непатрэбныя. Для чаго яны: ні для розуму, ні для сэрца. Калі толькі для дзяржаўнага гандлю.



**Вікторыя Шыман, зубны тэхнік:**
— Адна важданіна з імі. Цэны растуць, і грошы павінныя мяняцца. Вось долары – і адзін цану мае.



**Ларыса Някрашэвіч, медык:**
Калі "ўбяруць" дробныя купюры, вырастуць цэны. Таму адмяняць "драбязу" не варта. Рубель – таксама грошы.



**Любоў Дарашэнка, тэхнічны работнік:**
— Патрэбныя. У магазіне рэшту даваць. Асабіста для мяне буйныя грошы пачынаюцца з 20000 рублёў і 10 долараў.

**Апытанне падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**



## Чытайце праз тыдзень:

- **Юрый Антонаў** – хлопец з Галянова
- **Што схавана** за мурамі былой вілейскай турмы?
- **Інтэрв'ю з** пачынальнікам амерыканскай астранаўтыкі і нашым земляком **Барысам Кітом**.



## Гараскоп 21 – 27 кастрычніка

**Авен** (21.03–20.04)
Гэты перыяд спрыяльны для вырашэння сямейных праблем і заключэння шлюбаў. А вось на рабоце, з-за нядобразычліўцаў, вам, верагодна, прыйдзецца адстойваць свой аўтарытэт. Упэўненасць у сваіх сілах і аптымізм дапамогуць вам заваяваць павагу і ўмацаваць добрыя адносіны з начальствам.

**Цялец** (21.04–21.05)
На гэтым тыдні вам як мага менш варта прыслухоўвацца да парад, а больш давяраць уласнай інтуіцыі і ўнутранаму голасу. Прыслухаўшыся да яго, вы зможаце не толькі ўзняць уласны рэйтынг на службе, але і значна палепшыць сваё матэрыяльнае становішча. Напрыканцы перыяду верагодная незапланаваная паездка.

**Блізняты** (22.05–21.06)
У гэты перыяд вам трэба паглыбіцца ў работу, наладзіць і ўмацаваць адносіны з кіраўніцтвам, паколькі ад гэтага будуць залежаць усе вашыя далейшыя поспехі. Самае важнае, на думку астролага, пазбягаць у прафесійнай і дзелавой сферах непатрэбнай мітусні, а таксама залішняй актыўнасці. Памятайце, што вашыя моцныя бакі – вытрымка і мудрасць.

**Рак** (22.06–23.07)
Вас чакае напружаны і актыўны перыяд, які будзе спрыяльным для вядзення перагавораў і заключэння розных фінансавых здзелак. Рашучасць стане залогам паспяховага руху да намечаных мэтаў і прызнання вашых заслуг. Разам з тым будзьце ўважлівымі, інакш неасцярожнасць можа сапсаваць адносіны з блізкімі людзьмі.

**Леў** (24.07–23.08)
Гэты перыяд будзе ўдалым для кар'еры, звароту да начальства, ва ўрадавыя ўстановы альбо грамадскія арганізацыі. Астролаг лічыць, што ў выніку вашых узважаных учынкаў чакаецца паляпшэнне фінансавага становішча. Апошнія дні перыяду карысна будзе прысвяціць розным хатнім справам і сваёй сям'і.

**Дзева** (24.08–23.09)
Вы адчуеце прыліў свежых сіл і актыўна пачнеце работу. Зоркі прадказваюць, што вы атрымаеце інфармацыю, якая дапаможа вам павысіць свой прафесійны ўзровень і зрабіць неабходныя крокі ў напрамку кар'ернага росту. Не выключана, што вас чакае павышэнне па службе.

**Шалі** (24.09–23.10)
У гэтым перыядзе не праяўляйце дзелавой і прафесійнай актыўнасці. Адкладзіце сур'ёзныя справы і перагаворы на больш позні тэрмін, паколькі ў дадзены момант планеты ім не спрыяюць. Увесь свой вольны час на гэтым тыдні лепш за ўсё прысвяціць сям'і, дзецям альбо каханаму чалавеку.

**Скарпіён** (24.10–22.11)
Гэты перыяд пройдзе пад знакам набыткаў і паляпшэння матэрыяльнага становішча. Але ўсё ж такі будзьце эканомнымі і трымайце пад кантролем фінансавыя сродкі. У сямейнай сферы магчымыя невялікія канфлікты, але ў канцы перыяду вам удасца іх перааолець і ўнесці канчатковую яснасць у адносіны з блізкімі.

**Стралец** (23.11–21.12)
У гэты перыяд вам будзе спадарожнічаць удача ва ўсіх справах, звязаных з фінансамі і набыццём рэчаў хатняга ўжытку. Не эканомце – утульнасць сямейнага гнязда даражэй за грошы. У асабістых адносінах вы пераадолееце рознагалоссі са старэйшымі сваякамі, што будзе садзейнічаць міру і ўзаемаразуменню ў сям'і.

**Казярог** (22.12–20.01)
Праяўляйце актыўнасць і ініцыятыву. Займіцеся бягучымі справамі на рабоце і навядзеннем парадку і чысціні ў сваім доме, а ўсе рызыкоўныя прапановы і справы варта адкласці да лепшага часу. У сямейных адносінах стрымлівайце свае эмоцыі, інакш магчымы канфлікт з блізкім чалавекам.

**Вадалей** (21.01–19.02)
Верагодна, што ў гэтым перыядзе вам прыйдзецца сутыкнуцца з фінансавымі цяжкасцямі, але не вельмі засмучайцеся, бо іх вы здольныя пераадолець за даволі кароткі тэрмін. Яшчэ вас чакае рамантычная сустрэча. Будзе яна мець працяг ці не, гэта ўжо залежыць толькі ад вас. Не забывайцеся пра сваё здароўе. Не адкладвайце візіт да ўрача.

**Рыбы** (20.02–20.03)
У дзелавой сферы вас чакае неразуменне як з боку кіраўніцтва, так і з боку калег і партнёраў. На фоне такой сітуацыі варта больш часу праводзіць у сям'і – гэта ваш надзейны тыл. Нягледзячы на ўсе складанасці, перыяд садзейнічае буйным набыткам і пачатку новых камерцыйных праектаў.

**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017(2)**


Рэгіянальная газета

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ, Ніна МАНЦЭВІЧ.
Пасведчанне № 227.
Галоўны рэдактар **Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах. Тыраж **9150 экз.** Індэкс **63212** (індывідуальная падпіска), **63369** (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі. У розніцу – цана свабодная. **№42 (391) 18.10.2002.** РУП «Друкарня «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ. 222310, Маладзечна, вул. Таўлая,11. Зак. № 2928. Падпісана ў друк у 13.00 17.10.2002



**Наш адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
**ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41, 5-07-99.**
**E-mail: regionnews@promedia.by**
**http://regionnews.promedia.by**


**ПРЫЁМ ДРОБНЫХ АБ'ЯЎ**

**Маладзечна:** Вялікі Гасцінец, 68а. **Тэл. 69667, 53841.**
**Вілейка:** вул. Вадап'янава, 23, капіравальны цэнтр «Парус». **Тэл. 55284.**
**Смаргонь:** вул. Танкістаў, 8, рэдакцыя «Новой газеты Сморгони». **Тэл. 33077, 34353.**

**Разліковы рахунак №3012164030006 у філіяле ААТ «Белзнешэканамбанк» у Маладзечне, код 211, атрымальнік ТАА Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444**